Браслаўскі гісторыка-краязнаўчы музей



Браслаў у сярэдзіне XIX ст.

( З малюнка Д. Струкава).

# БРАСЛАЎ

# 1065-1990



Малюнак герба Браслава. 1792 г.

Стагоддзямі стаіць у непаўторна маляўнічым кутку Беларусі абкружаны з усіх бакоў азёрамі, старажытны горад Браслаў. Пачатак яго гісторыі сягае ў такую далячынь часу, што казаць аб годзе заснавання горада можна толькі ўмоўна. Кропкай адліку гісторыі горада Браслава лічыцца дата 1065 год. Менавіта ў гэтым годзе адбыліся падзеі, аб якіх паведамляе беларускі летапіс XVI ст. «Хроніка Быхаўца»: «...А потым князь вялікі Кернус і Гімбут, жадаючы пашырыць сваю айчыну, сабралі сілы свае літоўскія і жамойцкія і пайшлі на Русь да Браслава і да Полацка і шмат шкоды рускім зрабілі і зямлю іх спустошылі і мноства людзей пабралі ў палон». Летапіс, праўда, не прыводзіць даты гэтага нашэсця. Трохі пазней гісторык М. Стрыйкоўскі удакладніў: «...І было гэта ў годзе ад нараджэння гасподня 1065, калі Літва ўпершыню напала на Русь». Так па іроніі лёсу год разбурэння горада стаў афіцыйнай датай яго заснавання.

Найбольш старажытныя старонкі гісторыі Браслава звязаны з Замкавай гарой — месцам, адкуль горад пачаўся і дзе адбывалася столькі легендарных і рэальных падзей. Паданне аб узнікненні Браслава сведчыць, што не сто, не дзвесці, можа, тысячу гадоў назад на Замкавай гары жыў вядомы і багаты князь Дзвін. Была ў князя жонка Друя. Нарадзілася ў Друі дачка Дрыва. І калі вырасла яна, пайшла чутка, што няма на зямлі другой такой прыгажуні. Не адзін князь дамагаўся рукі Дрывы, аднак, не было ў князёў дастаткова багацця. Толькі тры князі Сноў, Снуд і Брас маглі сапернічаць з Дзвінам. «Толькі самы харобры стане маім мужам», — сказала Дрыва. Снуд і Сноў вырашылі, што Дрыве больш падабаецца Брас. Яны задумалі забіць саперніка. Аднойчы цёмнай ноччу Снуд і Сноў падсцераглі князя і забілі яго. Цяпер нехта з іх можа стаць абраннікам прыгажуні. Сапернікі пачалі біцца. Снуд перамог і забіў Снова, аднак і сам памёр ад ран. Раніцай іх знайшлі пад гарой. Тым часам стала вядома, што Снуд і Сноў забілі не Браса, а яго слугу. Брас застаўся ў жывых, але не пайшоў да Дрывы, адмовіўся ад яе жорсткага сэрца. Не вынесла крыўды прыгажуня, кінулася з вежы ў возера. Не шмат жылі пасля таго Дзвін з Друяй. Стаў тады Брас кіраваць горадам і княжыў доўга і справядліва. Гораду пасля далі яго імя. Аб іншых героях падання нагадваюць назвы навакольных рэк і азёраў.



**Скульптурная кампазіцыя паводле падання аб Браславе, устаноўленая на Замкавай Гары.**

Археалагічныя даследванні Замкавай гары паказалі, што людзі пасяліліся тут у сярэдзіне першага тысячагоддзя нашай эры. Спачатку на Замкавай гары існаваў латгальскі пасёлак, на месцы якога на мяжы X—XI ст. узводзіцца буйная парубежная крэпасць Полацкага княства. Часы ўзвядзення полацкіх умацаванняў адпавядаюць перыяду княжання Брачыслава Ізяслававіча (1001—1044), з імем якога найчасцей звязваюць паходжанне назвы Браслава.

Замкавая гара — каштоўнейшы помнік гісторыі і археалогіі. Раскопкі, якія праводзяцца тут, з'яўляюцца адзінай магчымасцю высветліць найбольш старажытныя старонкі гісторыі горада. Знойдзеныя археалагічныя матэрыялы сведчаць аб этнічным складзе на-

сельніцтва Браслава ў розныя перыяды, аб занятках, вераваннях, культуры, умовах жыцця. Высветлена, што для Браслава характэрна смяшэнне балцкага і славянскага насельніцтва, што жыхары горада займаліся сельскай гаспадаркай, паляўніцтвам, рыбалоўствам, такімі рамёствамі, як апрацоўка дрэва, касці, скуры, ганчарствам, ткацтвам, шыццём, кавальствам, што Браслаў меў гандлёвыя сувязі з Кіевам, Прычарнамор'ем, Валынню, Польшчай, Прыбалтыкай.

У пачатку XIV ст. Браслаў уваходзіць у склад Вялікага княства Літоўскага — буйной феадальнай дзяржавы, сфарміраванай на землях Беларусі і Літвы. Гісторыя горада на працягу многіх стагоддзяў была цесна звязана з Віленшчынай. У Віленскім ваяводстве Браслаў стаў павятовым горадам і меў значэнне важнага адміністрацыйнага і судовага цэнтра. Да XVI ст. Браслаў належыў вялікім князям літоўскім. Адным з яго ўладальнікаў быў князь Гедымін, які перадаў правы на Браслаў малодшаму сыну Яунуту. У 1500 г. у Браславе пабываў вялікі князь Аляксандр Ягелончык, будучы кароль польскі. 8 кастрычніка таго ж года, ён надае гораду права на самакіраванне. Пакуль невядома, ці атрымаў Браслаў у гэты перыяд уласны герб. Пры пацвярджэнні магдэбурскага права ў 1792 г. у прывілеі быў змешчаны малюнак герба, на якім адлюстравана «Вока прадбачання» на фонне сонечных прамянёў на блакітным полі. Сімволіка герба добра стасуецца з абаронным значэннем Браслава і азёрамі, што яго акружаюць. Жонка Аляксандра Ягелончыка княгіня Алена, дачка маскоўскага гасудара Івана III, пасля смерці мужа ў 1506 г. пасяляецца ў Браславе. З яе імем звязана заснаванне жаночага манастыра на Замкавай гары. Памірае Алена ў 1513 г. у Браславе, пахавана ў Вільні.

У перыяд Вялікага княства Літоўскага захавалася важнае значэнне браслаўскіх умацаванняў, якія ў дакументах пачатку XVI ст. упершыню названы замкам. На карце Вялікага княства Літоўскага, выдадзенай у 1613 г. у Амстэрдаме, Браслаў пазначаны малюнкам замка на высокім пагорку, размешчаным паміж вялікім і маленькім азёрамі. Можна разглядзець вежы, сцены, забудову. Некаторыя даследчыкі лічаць, што гэта малюнак перадае выгляд замка ў XVI ст. Інвентар Браслава 1649 г. змяшчае апісанне замка, згодна якому замак, размешчаны на высокай гары, меў верхнюю і ніжнюю сцены, 7 мураваных вежаў, вялікую браму з варотамі. Летам замак быў амаль непрыступны. Ён меў досыць важнае значэнне ў XVI—XVII ст., а пасля прыйшоў у заняпад.

Замкавая гара адыгрывала адначасова і ролю грамадскага цэнтра, тут размяшчаліся суды, архіў, праводзіліся сеймімі павятовай шляхты. На працягу сваёй доўгай гісторыі Браслаў ніколі не быў буйным паселішчам. Таму можна назваць некалькі прычын — разбурэнні ад ваенных дзеянняў, аддаленасць ад важных гандлёвых шляхоў, шляхоў зносін. У апісанні горада 1554 г. указана нават такая прычына: «Место Браславское не може быть великое для (з прычыны) озёр Дривяты и Новяты и для Горы на которой Замок, под которой место осело». У 1559 г. кароль Сігізмунд Аўгуст выдаў указ, па якому меркавалася перанесці горад у больш зручнае месца. Па ўсяму бачна, што гэты ўказ не быў выкананы.

Згодна інвентара 1554 г. у Браславе налічвалася 110 дамоў, 6 вуліц, у тым ліку вуліца Вялікая, былі царква, касцёл, бальніца, рынак, 40 корчмаў, жаночы і мужчынскі манастыры. Насельніцтва было каля тысячы чалавек. У сярэдзіне XVII ст. Браслаў меў 120 дамоў.

Вялікія страты горад панёс у час руска-польскіх войнаў XVII ст. у 1661 г. ён быў увогуле дашчэнт знішчаны рускімі войскамі. Пастановай Варшаўскага сейма гэтага года Браслаў на 4 гады вызваляўся ад падаткаў. Ад разбурэнняў XVII ст. Браслаў ужо не аправіўся. У канцы XVIII ст. тут налічваецца ўсяго 68 дамоў і каля 700 жыхароў. У 1794 г. у час паўстання Т. Касцюшкі на вуліцах горада адбыўся бой атрада паўстанцаў з карнікамі, пачаўся пажар. Браслаў быў спалены. Цэнтр павета перанеслі ў Відзы. У складзе Расійскай імперыі ўсходняя частка былога Браслаўскага павета адносілася да Дзісненскага павета Віленскай губерні, заходняя, з Браславам — да Новааляксандраўскага павета Ковенскай губерні. У XIX — пачатку XX ст. Браслаў — невялікае мястэчка. У сярэдзіне XIX ст. тут было 220 жыхароў, 60 дамоў, касцёл, царква, сінагога, сельскае вучылішча. Адна з яскравых старонак гісторыі Браслава к XIX — пач. XX стаг. звязана з імем доктара С. Т. Нарбута, які меў выдатную адукацыю, мог зрабіць навуковую кар'еру, аднак, каля 40 год аддаў справе лячэння жыхароў края, пакінуўшы глыбокі след у памяці людзей.



**Помнік С. Т. Нарбуту.**

У гады першай сусветнай вайны з 1915 г. Браслаў стаў прыфрантавым паселішчам, аднак баявыя дзеянні амаль не закранулі яго.

Рэвалюцыйна настроеныя салдаты ў канцы 1917 г. устанавілі ў мястэчку Савецкую ўладу. Неўзабаве, аднак, паследавала нямецкая агрэсія. Са снежня 1918 г., адразу пасля вызвалення Браслава ад кайзераўскіх войскаў, па жнівень 1919 г. Браслаў займаюць белапольскія войскі. Летам 1920 г. у ходзе наступальнай аперацыі кавалерыйскага корпуса пад камандаваннем героя Грамадзянскай вайны Г. Гая Браслаў вызваляецца Чырвонай Арміяй.

З 1920 па 1939 гады Браслаў знаходзіўся ў складзе польскай дзяржавы, быў цэнтрам павета Віленскага ваяводства. У гэты перыяд Браслаў паступова ператвараецца з захалуснага мястэчка ў невялікі ўтульны горад з курортнай накіраванасцю.

У 1939 г. у горадзе налічвалася каля 5 тысяч жыхароў. Восенню 1939 г. Браслаўшчына ўвайшла ў склад Беларусі. Браслаў стаў раённым цэнтрам спачатку Віленскай, пазней Полацкай, Маладзечанскай і Віцебскай абласцей.

У гады Вялікай Айчыннай вайны ў горадзе дзейнічала антыфашысцкая група, створаная А. А. Васілеўскім. Падпольшчыкі вялі барацьбу з ворагам да канца акупацыі. 8 ліпеня 1944 г. Браслаў быў вызвалены воінамі 735 СП (камандзір Ф. Н. Уцянкоў) 166 СД і Прыбалтыйскага форнта.



**Помнік савецкім воінам і партызанам у гарадскім скверы.**

У гарадскім скверы знаходзіцца брацкая магіла, дзе пахавана 879 воінаў Савецкай Арміі і партызан, якія загінулі ў баях пад Браславам. Помнік на магіле зроблены па праекту вядомага скульптара С. Селіханава. У горадзе ёсць яшчэ шэраг помнікаў: Гарадзішча Замкавая Гара з рэшткамі старажытных валоў, помнік С. Т. Нарбуту (1853—1926), касцёл, царква канца XIX ст., забудова цэнтральнай плошчы і раёна вуліц К. Лібкнехта і П. Булойчыка, узведзеная ў пач. 20 гадоў XX ст. паводле праекта архітэктара Ю. Клоса — помнік горадабудаўніцтва, шацёр над калодзежам — помнік драўлянага дойлідства, бальніца, пабудаваная ў 1907 г. С. Т. Нарбутам, помнік на месцы растрэлу яўрэйскага насельніцтва, памятная дошка ў гонар падпольшчыкаў (вул. Ленінская, 86).

З гісторыяй горада знаёміць экспазіцыя гісторыка-краязнаўчага музея, дзе выстаўлена шмат цікавых і ўнікальных экспанатаў.

Зак. 3195